XX 107/88 Белар 3-ж 32

Няхай жыве саюз рабочых і сялян!

# ЦЫРВОНЫ СЕЙБІТ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ“

№ 12 (32) — СЬНЕЖАНЬ 1928 г. — № 12 (32)

## Да дзесяцігодзьдзя Беларускае ССР

### УЛАДЗІМЕР ДУБОЎКА

У гэты ўрачысты дзень,
вітаць які мы ўсе павінны,
аж пошчак з водгукаў ідзе
паўз любай нашае краіны.

Праз доўгі час за годам год
нас вёў да новых дасягненьняў.
І гэта ўсё праз дзесяць год
здаецца толькі вокамгненьнем.

Замест пажарышч і руін,
якія ў спадчыну мы ўзялі,
паўсталі рэйкі каляін
і гуты новыя паўсталі.

Растуць заводы, гарады,—
надзея наша без трывогі.
Праз нязьлічоныя сьляды
раўнейшай робіцца дарога.

Калі поэт сьпяваў раней:
«Загляне сонца у ваконца»,
«І будзе школа для дзяцей»
«І будзе ў торбе талаконца»...

Дык зараз песьняй не абняць
усю сучасную асьвету,
і нельга ў песьні ўсё сказаць
пра школы і ўнівэрсытэты.

І нельга ў песьні ўсё сказаць
пра цуды колектыўнай волі,
якімі будзем адзначаць
мы паляпшэньне нашай долі.

Магчыма, здарыцца ня раз
наперадзе бяда якая,
але хто ў прошлым не загваз,
таго й наступнасьць ня пужае.

Часіна лютае міне,
Ўсе перашкоды зможа праца.
І песьня ў нашай старане
Ў страёх сьвяточных будзе сьлацца.

Бо вось і ў гэты, бачце, дзень,
вітаць які мы ўсе павінны,
аж пошчак з водгукаў ідзе
паўз любай нашае краіны.

Масква, 1928.

## Беларусі пад Польшчай

*(Да 10-ае гадавіны Савецкай Беларусі)*

### ЯКУБ КОЛАС

Спраўляем сьвята мы тут сёньня
Сьвята з сьвят,
На новы лад.
А ты, край любы Наднямоньня,
Родны брат,
Чаму ня рад?
Чаму глядзіш, як пастароньні?
Між намі цёмнае прадоньне...

Вядзе тут рэй свае дзяржавы
Грамадой
Працоўных рэй,
А ты пад пятамі Варшавы
Маладой
З бядой-нудой
Ушчункі зносіш і расправы
І цягнеш той-жа лёс іржавы...

Атрускі, друз сярэдняве́чча—
Пробашч, пан,
Шляхецкі стан
Узьлеглі, душаць табе плечы...
Чад, туман—
Ксяндзоўскі зман,—
Якая прыкрасьць і пустэча!..
Прыходзь-жа, брат, на наша веча!

24-XII-1928 г.

# Дзесяць год

М. Р.

Дзесяць год жыве і разьвіваецца БССР—Беларуская Савецкая Социялістычная Рэспубліка. За гэтыя дзесяць год беларуская культура, культура беларускіх рабочых і сялян, прайшла слаўны і вялікі шлях свайго разьвіцьця. Беларусь—тая краіна, якая была доўгія вякі ў няволі, у якой нават забараняялі ўжываць беларускую мову, гэтая краіна цяпер стварыла сваю Акадэмію Навук—гэты найвышэйшы кіраўнічы і творчы цэнтр культуры.

Шпаркімі крокамі ідзе разьвіцьцё гаспадаркі, навукі, літаратуры. Усе нацыянальнасьці як роўныя браты, сярод якіх няма ні лепшых ні горшых, разьвіваюць, твораць кожны сваю культуру—нацыянальную ў форме і пролетарскую ў зьмесьце. Беларусь—родная сястра іншых савецкіх рэспублік, роўнапраўны член моцнае, магутнае сям'і Саюзу Савецкіх Рэспублік! Гэта спраўдзіліся словы Янкі Купалы, што Беларусь ідзе, каб «людзьмі звацца». Бо да Кастрычнікавае перамогі працоўных Беларусь была бяспраўнаю, прыціснутаю з аднаго боку расійскім царскім самаўладзтвам, расійскім чыноўніцтвам, якое зьдзекавалася над беларускаю мовою, старалася зрусіфікаваць Беларусь, зьнішчыць, задушыць беларускую культуру. Гэта Беларусь была пад нацыянальнай няволяй. З другога боку—тут панавала няволя социяльная. Гэта паны ўладалі зямлёю, а фабрыканты прадпрыемствамі. А працоўны чалавек быў у іх наймітам; мужык быў бяспраўным парабкам у пана.

Заходняя Беларусь і цяпер гэтак жыве. І цяпер там нашы браты працуюць на пана, на асадніка, якія трымаюць пад сабою ўсю зямлю. Польская панская навала там душыць беларускую культуру. Мы ведаем, што там нават паліцыя разагнала таварыства беларускае школы. Замест школ, там паны будуюць турмы.

За десяць год савецкага будаўніцтва беларускае культуры, мы маем гэтакія дасягненьні, пра якія не маглі нават і думаць тыя беларускія працаўнікі, якія у часы царскае ўлады, перамагаючы страшэнныя цяжкасьці, вялі культурную беларускую працу. І Беларуская Акадэмія Навук, і Беларуская сельска-гаспадарчая Акадэмія, і Беларускі унівэрсытэт—усё гэта нашы дасягненьні за гэтыя гады. Таксама — разьвіцьцё тэхнікумаў, іншых вышэйшых, сярэдніх і ніжэйшых школ! Разьвіцьцё гаспадаркі, Асінаўская электрычная станцыя, палепшаньне і абнаўленьне форм сельскае гаспадаркі—усё гэта паказвае на наш вялікі і пасьпяховы размах у будаўніцтве.

Перамагаючы ўсе цяжкасьці, бадзёрыя і моцныя, мы ўваходзім у другое дзесяцігодзьдзе БССР.

# Беларусі

МАКСІМ ЛУЖАНІН

Кожны дзень прыходзіць расьцьвітаць,
каб пасьля памерці за гарамі.
Мы ня хочам радасьці вітаць,
што чужымі дадзена рукамі

Каб ізноў ня йсьці у кабалу—
дышуць стальлю нашыя заводы,
і нясе магутны Асінбуд
электрычную сваю пагоду.

І калі ў саўгасавых палёх
забастуе наш савецкі трактар,
гэта значыць лепшых мілёнаў
пойдзе ў вёску брукаваным трактам.

Вось чаму я радасьці хачу,
каб свая, нязломная жывая,
каб заўжды сьвіцілася ў вачу,—
што і мы сягоньня расьцьвітаем!



Сялянскі унівэрсытэт пры сельска-гаспадарчай акадэміі ў Горках.

# Альлё, Алёна!

## А. МРЫЙ

### I.

Пахучае, прывабнае бабіна лета стаіць.

Журавы пралятаюць раніцамі марознымі, калі агароды як срэбрам абсыпаны іпжакай, і сумны іх клёкат над вёскай гучыць, як сьпеў разьвітальны.

А ў дзень лёгкае, нібы шоўк, павуціньне снуецца па полю. Ціша ў лесе стаіць. Шарахціць пад нагамі кляновы ліст і красуецца крывавая рабіна. Мякка грэе стомленае сонца—не балюча воку глядзець на яго. І здаецца, нібы ад праменьняў яго ўсё бледна-блакітнае неба напоўнена ціхім, ледзьве чутным дзынканьнем крышталю.

У дзень бабы выйдуць на вуліцу, пасядуць белымі купкамі на прызбах і завядуць доўгія бясэды.

Між імі за старшыню Апанасіха, бабка сухая, як таран. Вочы ў яе маленькія, калючыя, як шпількі, а рот сухі, сьцяты. Постаць зграбная, спадніца саматканая, яшчэ новая. Галава абвязана крамнінай.

Завуць яе Алёнай, але на вёсцы яна больш вядома, як Апанасіха.

Апанасіха пра мужыка свайго размаўляе:

— Падумайце, пагадайце, бабачкі! Старога трэці дзень ня чуваць! Дакляраваў мне яшчэ ўчора быць... У мяне, галубачкі, сэрца не на месцы! Ён жа слабы, удушлівы чалавек, каб чаго, ня дай божа...

— Дык айдзе-ж гэта твой Апанас?— у соты раз пытаюцца бабы. І заўчора пыталіся, і ўчора тое самае, і сёньня трэба запытацца! Бяз гэтай формы не абойдзешся. А мо' і сапраўды забыліся. Мала хто і куды пашоў!

— Ды ў горад-жа чмыхнуў! Прышла веста... Нейкі прыёмнік мой выйграў... Бясплатна за газэту дадуць... дык пацяг-

нуўся! паволька, кожнае слова расьцягваючы, кажа Алёна і глядзіць, якое ўражаньне гэта робіць на ўсіх.

— Ад веку ня чула і ня бачыла, што яно такое! паведамляе шчыра Рабчыха.

— А ты думаеш, я ведаю? Не, мая галубачка! І мае мазгі ўжо выкарчылі, аніяк у галаву не вазьму... Апанас мой таксама зроду ня бачыў і ня ведае, што яно і да чаго яно... А Ягорка мой кажа: гэта труба такая... як скажаш у Маскве ці ў Менску—тут чуваць будзе! Ну толькі, галубачкі, я ня дужа веры даю гэтаму!..

— Ат! дурасьветы чаго, чаго не павыдумляюць! як нажом адрэзала Луцэя, баба крамяная і ня дужа разумная.

— Не, не! Сын твой мысьляй у цябе! Што там гаварыць? Празукаваты хлопец! Кансамолец! Усюды пасьпее! разам загаварылі бабы.

— Можа што і ёсьць такое! сказала Апанасіха. А толькі я ня люблю гэтага. Як скажу сыну, дык ён ірэзы спраўляе з мяне! Усё ырае па людзях, як галавы сабе ня скруціць. Ён жа і падбіў бацьку, каб ішоў за гэтым... як яго... ой... забылася, як завуць радзімца гэнага... Бабы таксама забыліся і доўга калуваліся ў галаве... Прыпамятала сама Апанасіха і ўжо ў каторы раз начала гаварыць, як ўсё гэта было:

— Нешта ўраілася майму Апанасу газэту чытаць... Ну дык мой чалавек што? Толькі склады і ўмее... Вечарамі сядзіць, сядзіць, пэкае, мэкае, гэкае, вэкае, аж упарыцца... І ў лазьню ня трэба... У мяне мутарна на сэрцы... Ашалеў бацька за сынам... Што Ягор ня скажа, дык і мой за ім. Злучыўся чорт з д'яблам... Вось і вычыталі яны недаячы, што майму шчасьлівае чысло выпала—дадуць гэту самую трубу! Ды не адну трубу, а дзьве, на два вухі надзець, як боты на ногі! Як надзенеш на вушы, дык табе Масква ці Менск і затрубяць!

— Ой! Хоць ба хутчэй пабачыць усё гэта! нецярплячым галасам усклікнула дачка Апанасіхі 12-гадовая Хрысьцінка.

— Пабачыш, пабачыш, дзога! гаворыць матка і цягне далей, як нітку, сваю бяседу:

— Як прышла гэта веста, Ягор ад радасьці галоча! А мая душа ня прыймае гэтага. Пытаюся, што яно, на што яно, куды яно. Сын і кажа: у Маскве ці ў Менску на скрыпцы будуць іграць, ці гаварыць, ці пяяць, а тут у нашай цёмнай хаце чуваць будзе!.. А скора будзе яшчэ і так, што чалавек у Маскве будзе гаварыць, а мы будзем тутака на яго глядзець ды бачыць, які ён і што ў яго там ёсьць!

— Ну, гэтага ня можа быць! Гэта грэх, гэта д'ябал людзей падвучае! жагнаючыся сказала Лісеіха, самая старая і набожная бабуля.

— І я, Тэклячка, так думаю! адказвае Алёна. Я-ж і казала Ягору: сынок, я ўжо кнізу расту, не да мяне твае забаўкі, не хачу іх. Калі можна, прадай гэту трубу там у горадзе. А сын кажа: у цябе, маці, старая ідалегія!.. Ох, як гэрэсна майму сэрцу ад гэтых слоў стала... Кажу: не баюся, сынок, тваей ідалёгіі. Ты сам ідал! Што ты мне казкі гаворыш?

— А твой што? І ён усьлед?

— Апанасу майму як хваробай вушы заклала. Кажу і яму: прадай, прадай у горадзе трубільню гэту! Дык ён як ня чуе! А падумайце, галубачкі, якое наша жыцьцё? На грошы ў нас няма воду! Як тая сьляпая казала: шчуп у кішэнь, посны ляўмень. Якое ў нас дабро? З пад печы выгнаць некага. Пазычыла трамк на пераварот, вось і каламажымся! А ён яшчэ на разгары сабраўся, культуру заводзіць!

— Гора, гора, калі ўсё гола! засойкалі бабы ў адзін голас.

— То-ж та і ёсьць! згаджаецца Алёна. А сын мой кажа: наша жыцьцё яшчэ ня тое! Ангал нам шкоду робіць, не дае супакойна жыць! А то мы ня так бы. А я кажу: тады праўда і цалізм твой пры-

дзе, як нас па сьвеце ня будзе! Не падабаецца Ягору, як так кажу, круціць носам, як хрэну папюхаўшы...

II.

— Мамка! вунь-жа тата ідзе! радасна сказала Хрысьцінка. Яна сваімі зіркімі вачыма ранёй за ўсіх пабачыла Апанаса. Бабы так заюшыліся сваімі гутаркамі, што і не глядзелі ў той бок.

— Добра, хоць жывы вярнуўся! лёгкім голасам сустрэла Апанаса яго жонка.

У Апанаса па твару бегае нейкая ўхмылка. У руках нейкі скрутак. Няўжо гэта і ёсьць тая труба? Якая-ж гэта труба? Мусіць ня далі! думаюць бабы.

— Ня далі? пытае ў Апанаса яго жонка Алёна.

— Далі! Як ня далі? Чаму ня далі, калі ў газэце ўдрукавалі?.. Толькі ня ведаю, ці добра гэта зрабіў.... Мне гаварылі: калі хочаш, дык замест апарату, бяры боты, ці мануфактуру, ці плуг... як хочаш. Я падумаў, ды ўзяў апарат...

— Які рапарат?

— Ды прыёмнік гэты! Апанас паварцеў у руках скрутак.

— Ой, гора маё, гора трыногае! застагнала Алёна. Які ты не шабекаваты! На што браў ты цацку гэту? Ах каб-жа ты па вадзе хадзіў, ды піць прасіў. Было ліха цераз дзень, а цяпер будзе кожны дзень!

— Маўчы ты! Цярпець не магу тваёй грызы! абараняўся Апанас. Што ты мне агню ў масла падліваеш? успомніў ён словы, якія чуў у горадзе. Цьфу! ня тое хацеў сказаць!

— Яно і відаць... розум які быў страціў. Гэта-ж трэба ткі! Даюць боты, даюць плуг, манухвактуру даюць сівому чорту, а ён...

— Ды ня ўсё разам, ня ўсё! Ласая ты! І тое, і другое, і трэцяе! Даўбешка ты! Праўду кажуць: розум ня кулеш, у галаву не накладзеш, калі дурань адро-ду...

— Мой разум пры мне, а твой дзе дзеўся? Цяперака ня піўшы, ня еўшы, слухай гэтую трубільню, ды скачы ашалеўшы! сказала Апанасіха, зьвяртаючыся па маральную дапамогу да суседак.

— Ат! З гэтага карысьці, як ад казла малака возьмеш! падтрымалі яе суседкі і разам загаварылі, асуджаючы Апанаса:

— І што ты з ёю рабіць будзеш? Хлеб яна табе дасьць, труба гэта?

— Салому еж, а фасону ня губі! адбіваў атаку Апанас. Вам, бабачкі, толькі і давай есьці, ды піці, а для галавы нічога ня трэба... Во сабраліся ганьдзюліць... Як той казаў: прышлі куры на хаўтуры, верабейка памёр. Толькі і ведаеце, як лапэхаць языком. Цыгана аднаго не хапае, а то поўны кірмаш!

— Тата! пакажы трубу, якая яна! улучыла момант Хрысьцінка, якая ўжо даўно з прагнасьцю глядела на рукі бацькі і скрутак, што быў у іх.

— Чаму ты тры дні марудзіў там? Ці табе ў хаце працы няма? Дзе цябе там насіла? чакае адказу Апанасава жонка.

— Табе ўсё трэба ведаць! усьміхнуўся Апанас і вочы яго зрабіліся вясёлымі.

— Да дзевак хадзіў! Ну? Досыць з цябе?.. пажартаваў ён і пачакаўшы троху загаварыў:

— Там мяне добра правецілі! У тэатры пабыў, у кіну схадзіў, у музэй завялі...

Прышоў з гумна сын Ягор і вельмі ўзрадаваўся бацькаваму выйгрышу.

Апанас толькі цяпер рашыўся асьцярожна разьвязаць скрутак і дастаць з яго скрыначку, а ў ёй нейкія белыя, каляныя шнуры, нейкую блішчучую пазабрычыну, з крутэлачкамі на канцох.

Усе хацелі памацаць рукамі, але Апанас нікому не дазволіў дакранацца.

— Ялчэ згадаіш што... Ля гэрай...

Сам ён паказваў Ягору нейкія гузікі, катушачкі, матушачкі і гаварыў:

— Тамака мне гаварылі: гэта дадэхтар, гэта коньдыштатар, гэта тэлехвонныя трубкі, гэта анодава катушка, гэта зазямельнік, а гэта... забыўся як. Далі яшчэ і кніжачку, як усё гэта прыладзіць. Дык гэта ужо Ягору трэба... Яны мне гаварылі, гаварылі, паказвалі, паказвалі, аж самі потам абліліся... ды галава мая, як рэшата ваду прапушчае.

Усе моўчкі глядзелі на Апанасавы «цацкі» і чакалі, што з гэтага будзе. Больш за ўсіх чакала ад гэтага Хрысьцінка, якая яшчэ ў школе наслухалася шмат пра гэты цуд.

Ягор узяўся за кніжку. Але цяжка зразумець аднаму, хоць і добра напісана. Бацька—дрэнны памоцнік. Трэба зьбегаць да настаўніка.

Апанас тым часам пашоў рыхтаваць жардзіну, якая (сказалі яму ў горадзе) ёсьць першая неабходная штука ў гэтым апараце. Пашоў шукаць яе на агародзе каля гумна.

Прынёс жардзіну доўгую, доўгую. Ледзьве дацягнуў. Нават пералязаўшы прасла, нагавіцы разадраў. Бабы сьмяюцца з Апанаса. А ёй каб схаваць сваё замяшаньне, жартуе з іх:

— Бабы, бабы! Ад вас, як ад сьмерці не схаваешся, не адчэпішся! Чаго вы чмыхаеце. Ой глядзеце, каб каторай з вас не папала ад мяне!

— Ад цябе? Ты ўжо стары! Не пападзе ад цябе!

— Эгэ-гэ! Не пападзе?! Калі мужык п'е і есьць, дык і на баб можа глядзець! Вунь я ў горадзе паглядзеў, як хвокстрот танцуюць, дык здаецца і я-б змог так вырабляць з каторай з вас!

— Эйш ты яго! Расхадзіўся пеўнем! ушчыкнула яго Луцэя, баба крамяная і ня дужа разумная.

Прышоў настаўнік, адразу расшалошыўся, што і як. Мужчыны ўтраіх нача... лі жардзіну высокую, высокую на вільцы ладзіць.

Бабы зноў у сьмех. Цяпер пытаюць у Апанасавай жонкі:

— На што яму гэта хлыбазіна? На неба палезе гарох сеяць, ці што?

— А я ведаю, на што здалася яму хвароба гэта? Можа ўзьлезе на яе ды закукуе на старасьці.

Апанас хоць і заюшыўся ўсім гэтым, але чуе зьнявагу ад жонкі і кажа:

— Ой глядзі, крупадзёрка, каб не папала табе! Ведай, жонка, і певень сэрца мае, а я-ж чалавек. Дык часам джосу дам!

### III.

На другі дзень увечары Масква і Менск загаварылі ў хаце Апанаса. Колькі радасьці было Ягору, Хрысьціне і ўсёй вясковай моладзі! І колькі турботы Апанасавай жонцы! Удзень на прызьбе седзячы жалілася яна суседкам:

— Як прыключылі гэтыя трубкі, дык увесь вечарочак ад тлуму хата стогне! Уся вуліца прэцца ў хату маю, як у мяне кіятры якія ці што! Слухаюць, слухаюць ды хваляць! І перадыхнуць некалі... Як толькі сьцямнее, трубкі ўжо голас падаюць!..

— А ты-б ня пушчала! гаворапь бабы, а самі думаюць: хаты шкадуеш, кашчэіха! кожнаму-ж ахвотна паслухаць, ня ўсім-жа шчасьце...

— Як-жа ня пусьціш, калі Ягор усю моладзь цягне... Дзеўкі кожную хвіліну шахаюць у хату і на вячоркі забыліся... А яму і на руку гэта... Жаніцца хлапец ня хоча, а за дзеўкамі пацягацца чаму не! Мне за імі і паслухаць ня прыходзіцца. Ня ведаю, калі ім падабрыдне!

— Я першая паслухала-б, нікому-б рапей сябе ня дала! сказала Луцэя, баба таўстая.

— А ўжо сягоньня вечарам паслухаю, загадзя абруч па галаву надзену і буду слухаць, пакуль наслухаюся! сказала рашуча Апанасіха.

### IV.

Увечары, падаіўшы кароў, управіўшыся па гаспадарцы, Апанасіха пады...

шла да цудоўнай скрыначкі, узяла «абруч», надзела яго на галаву сабе, села на лаву, зрабіла ўрачысты і застыглы выраз твару і нарыхтавалася слухаць. Ягор мэханіку рабіў.

Апанас запытальна глядзеў на сваю жонку і чакаў захапленьня з яе боку. Ён сам, здаецца, слухаў-бы гэта дзень і ноч—цэлы новы сьвет, цудоўны, адчыніўся перад ім. «Пабачым, ці будзеш ты клясьці мяне, як паслухаеш!» думае ён.

Раптам здарылася нешта нечаканае, дзіўнае, недарэчнае!

Алёна, яго жонка, з жахам дзугнула трубкі, схапілася за галаву і закрычала:

— Ратуй мяне, Апанас! Заткні гэту трубку! Яна-ж кліча мяне.

Алёна запалоханая, задыхаючыся ідзе да ложка і зьнясіленым голасам шапоча мужыку:

— Толькі ўзялася я за трубку, а там чую: Алён, Алён, Алён. Мяне кліча! Хутчэй разбэхай яе, а то памру! Жыва ня буду!

Апанас галавой махае:

— Дурная, дурная, дурная! Альлё, альлё, альлё!



Беларускі вэтэрынарны інстытут у Віцебску

# Баркаўцы—добрая вёска і баркаўчаньне—вясёлыя людзі

### Апавяданьне Лукаша Калюгі

Над нашы Баркаўцы — няма лепшай вёскі. Тут і жыць весела і ні па што далека іці ня трэба. Усё пад бокам: сельсавет, кааперацыю. Нават пошта—і тая ў нас ёсьць. Ды 'шчэ два гасьцінцы сярод Баркаўцоў крыжуюцца. Адзін ідзе ўдоўж праз усю вёску, а другі—каля цагульнякі, што трохі на водшыбе стаіць, ды ўпоперак праз Баркаўцы праходзіць. Па тым, што цераз усю вёску з канца ў канец ідзе, калі паехаць — у наша мястэчка, у гравкі Хлюпск заедеш. А з другога на 'шчэ большы гасьцінец выедзеш ды тады проста, нават вочы завязаўшы, у наш даўней акруговы, а цяпер—раённы гарадок трапіш.

За нашу бытнасьць адна лішняя зборня была ў Баркаўцох. Ад графа Сроль карчму трымаў. Стаяла яна там сама, дзе і цяпер стаіць: на самых крыжавых дарогах.

Усякім манерам Сроль кідаўся: на пявер гарэлку даваў, на збожжа продаў. Хочаш — садзіся ў карчме пі, а ня хочаш—дадому нясі. Сьвята войдзе—тады Сроль нойме музык. Яны сабе барабаняць усю ноч, а ён сам за буфэтам стаіць. Вочы маленькія ў Сроля паробяцца—меншыя за кратовы. Цісне іх сон. А ён потым чапурыцца. Весялей пазірацъ усё прабуе. Сарод карчмы ігрышча. Круцяцца, прытоптуюць, а Сролю і ні на ўме гэта. Ня так ад старасьці, як ад прывычкі яго музыкі ані ня трывожаць, як бы ні стараліся лепш уладзіцьНя тое што другі каторы: і ногі дрыгаюць і плячукі то ўзад, то ўперад пахаджваюць. А што Сроль!.. Яму трэба напагатове быць—ану можа каму выпіць кватэрку якую заманецца. Гэтакаму чалавеку Сроль дасьць—паддасьць: абы грошы ці добрая застава.

У нашых Баркаўцох яшчэ і цяпер жывуць два музыкі. Толькі што за гэтыя гады сапселі, састарэлі. З лыжкаю ўжо добра ні саўладаюць, а ні то каб з смыкам ці з кручкамі. От перад вайною, дык яны самыя аматары былі. Адзін з іх пілаваў на скрыпцы, а другі на цымбалах барабаніў. І вясельлі езьдзілі ў двух іграць і разам у карчму хадзілі. Так таварышкавалі, што проста—дзіва. Да да таго ўжо былі ў двух разам іграць уладзіліся, што ніякія местачковыя бывала ні паправяць. Самі ногі здэцца пад тахту ідуць, як іх пачуеш.

Гэтых нашых музык Сроль перш хадзіў прасіць, кожан раз з імі гадзіўся, колькі возьмуць за вечар. Потым яны і самі, бяз ніякага папытаньня, прыходзілі. Нарэшце да таго ўнадзіліся, што Сроль ім і плаціць кінуў, а яны як толькі вечар перад сьвятам ці ў сьвята—ідуць вы ідуць. Іграюць аж да пявуноў, а калі разахвоцяцца, дык і да белай раніцы ў карчме заседзяцца. На вечар разоў тры маршча граюць. А раз маршча граюць, дык, хто гуляў, дзясятку ці грыўню ў цымбалы праз адмысловую шчылінку ўкінуць павінен. Такі ўжо звычай. От з гэтага музыкам і заработак.

Стала вайна—зьвялі карчмы, прыкрылі Сролю гандаль. Але ён і на гэтым ня траціў. Перакупствам стаў займацца. Шчэ выйграў, нават. Граф з карчмы Сроля прапсюрыць перш ня меў часу, а потым і волі ня стаў мець. Дармовая хата яму прышлася, ды ня то што хата, а цэлыя пакоі. Няпрызвычаены чалавек заблудзіў-бы, каб пашоў па ўсіх камарах. Сролю і то—добра. Кепска адным баркаўчаньням ад гэтага стала. Ужо-ж ня будзеш так вісець у Сроля над сталом, як даўней у карчме над

буфэтам. Ды і чужыя людзі ня сталі цяпер сюды заязджаца, як няма гарэлкі. Так што і навін ніхто з стараны ні падвязе. Цяпер ані баркаўчаньням нама ніякага інтарэсу да карчмы.

Саўсім другі інтэрас у людзей у вайну. Тады адступленьні, наступленьні ўсплылі на гаворкі язык. Да гэтага часу толькі чуць чулі, што недзе нейкія газэты ёсьць. Дамоў іх толькі тады прывозілі, калі ў краме што куплёнае ў яе ўвернуць. А цяпер паедзе хто да торгу ды і купіць там газэту.

Выбіраюць як каму да густу: хто большую, а хто таншую. Калі сам чытаць ня ўмее ды дадому прывёзшы некаму дасьць, каб пачытаў, а сам паслухае. Так што карчма і ня надта патрэбна стала.

З адным кепска было, што гарэлкі тады ня продалі. Ото-б людзі папапівалі! Ото людзі з гора горкага чэмеру гэтага выжлукцілі-б! Ото-б казьне заработак быў!

А зьмірыліся раз. Потым яшчэ разоў дзесяць з усякім чортам як зьмірыліся, а каго прапсюрылі—пацішэла тады. Трохі пачакаўшы «руска-горкая» зьявілася. Толькі не сталі на пробу з Хлюпску дамоў нашы баркаўчаньне прывозіць, як зараз к нам, бы чорт з неба Цэнтрасьпіртаву крамку скінуў з усім чысьцінька: гарэлкаю, вывяскаю і нумарам 72-м. Так усё скора рабілася.

Яшчэ да гэтага ў Баркаўцох людзі сабе капэрацыю былі зрабілі. Ды відзе яму добрай хаты не падабралі. Успомнілі тады, што Сроль дармовыя пакоі мае. Законным правам узялі пацісьнулі былі яго крыху. Самы лепшы ганак і два камары ад вуліцы, што з градамі ў вокнах, занялі. Потым зьявіўся Цэнтрасьпірт—і той к Сролю прысунуўся. Другі ганак ад вуліцы і яшчэ два камары заняў, каб з сваімі поўнымі і гуляшчымі пляшкамі было дзе распасьцерціся. Пакрыўдзілі Сроля. Ніводнага акна ў яго не асталося, што з хаты на вуліцу, а ўсе на гразкі, нізкі двор. Сролю крыўда. Давай ён заявы пісаць, суды ды справы заводзіць, але нічога не памагло. На яго, як на прыватніка, ніхто ўвагі ня ўзяў. Так і астаўся сядзець там, адкуль яшчэ ня выгналі ды глядзець на гразкі, ад патопу ня мецены двор, а ні на шырокую, чвыравітаю баркаўскую вуліцу. Сролеў сын, дык яшчэ на бацьку й сварыўся.

— Начорта табе, старому, суды ды цяганіна. Сядзі сабе ў сваім кутку ды маўчы. Дзе-ж ім дзецца? Трэба-ж дзе атабарыцца.

Сроль на баркаўчаньняў за ўсе гэтыя падзеньці, што нехаця яны нарабілі, і ня злуе надта. Апранецца бывае ў свой чорны рускі кажух з фалдамі ці ў ватовую куртку—выйдзе на вуліцу з людзьмі пагаварыць. А гэта ўсё таму, што баркаўчаньне людзі разумныя і змысьлыя. Калі што гуртам робяць, дык падумаўшы — таму яно ў іх добра й выходзіць. А якія людзі—такая вёска.

Ды што многа гаварыць! Можна не хвалячыся сказаць, што сьвет схадзі — лепшай вёскі за нашу ня знойдзеш. А вот Трахім з нашай Пагулянкі кажа, што Баркаўцы й блізка да добрай вёскі ні сталі, бо гарэць ні разу ні гарэлі. Урасьлі садамі ды дрэвам усякім, што здалёк і, праўда, на вёску ні падобны, а на нейкі сад, як у паноў каторых перад палацамі. Мне здаецца гэта й добра. Баркаўчанскаму воку ёсьць з чаго парадавацца. Прышламу чалавеку ёсьць чаму пазайздросьціць. Калі ўжо Баркаўцы за гэта ганіць, дык сьмеху варт такая мова. Толькі бяда, што Трахіму гэтага ні ўгаворыш, калі на сваё напрэ. Ён адно дзяўбе:

— Тут,—кажа,—не людзі, а нелюдзі. Ніколі яны з торбамі ні хадзілі. Гору чалавечаму ня ўмеюць спагадаць, бо самі ў ём ня былі. Ты хоць трэсьні, у бяду папаўшыся, а ратунку ні чакай ні ад кога. Будуць стаяць, рукі ў закарвашы ці ў кішэні паўкладаўшы, глядзець ды толькі пасьміхацца сьцішка.

Можна смела Трахіму ні паверыць, бо я гэтыя словы ад яго ўздаванага

чуў. А яго ў злосьць як увядуць, дык чукаецца тады, на адной хвіліне па пяць раз вымае люльку з зубоў, каб плюнуць ды такія штукі пра людзей расказвае, што хоць ты ўсіх вешаць вядзі, пасьля гэтага.

Няма людзей лепшых, як нашы баркаўчаньне. Дзе гэта відана! Усяго толькі, што крыху дзіўныя яны: ня любяць, каб з свайго мазаля хлеб есьці, а ўсё хітрыкамі, каб промыслам сваім як выкруціцца. Каб дзе дарма капейчыну абарваць стараюцца. Каб ні сеяўшы ні малаціўшы ды прыбытак мець. Хочуць, каб і ў заработках не натрудзіць плечы і каб грошы хадзіць сыскваць. Баркаўчаньне да ўсяго прыглядаюцца, прыслухоўваюцца. Любяць гурт і вясёлую шумную гаворку.

Даўней было ім самае прыстанішча ўвечары ў карчме, а ў дзень у валасьці на зборні. Як валасьць скасавалі, дык гэтакія самыя парадкі і ў сельсавеце асталіся. Але гэты год кепскі ў нас старшыня. Саўсім ня любіць гоману і гаворкіх людзей. Калі прыдзеш да яго ў савет, ня будзе доўга распытвацца:

— Што ў вас чуваць?

— А як там на дварэ? На дождж не выглядае?

Зразу вызьвярыцца:

— Што скажаце?

От гэта яго слова і не баркаўскае. Пабаркаўскому трэба ласкава з чалавекам гаварыць, кпінамі яго калоць з падцішка, сьмяючыся сам сабе пад нос. Ды, на добры лад, з нашага сяголетняга старшыні гэтага і даходзіць нячга чаго. Ён не баркаўчанін, а пасёлкавец. Пакуль пасёлку ні ўзяў, у адным (далякавата ад нас) саўхозе быў паплаўнічым. Як дзень, як ноч конна з адразанкаю ў кішэні саўхозкае поле і сенажаці аб'яжджаў. Глядзеў, каб хто жыта сваім адумам сабе ні ўжаў снапоў колькі, каб травы не нарвалі, каб з крыжыкаў ды з мэдлікаў снапоў ні парасьцягвалі, каб копы на сенажаці цэлыя сталі, каб хто каня ці цельную карову не прыпусьціў у шкоду папасьвіць. А ўвімку дзень сьпіць, а ноч з тэю самаю адразанкаю ля будынкаў ходзіць. Вартаваў, каб саўхоз цэлы стаяў: каб нічога суседзі ні парасьцягвалі, ці каб хто па злосьці ні ўцёк, ціхенька з запалкамі падкраўшыся. Так што тады яму, нашаму старшыні, мала й гаварыць трэ' было — больш крычаць ды праганяць даводзілася. Можа загэтым ён і ня любіць языклівых, гаваркіх людзей.

Праз яго цяпер у нашым сельсавеце і на зборні зборні няма. Баркаўчаньне па злосьці кажуць на нашых сельсаветчыкаў:

— Мармычы-людзі. Толькі й знаюць свае папоры пісаць ды ўсё сартуюць іх, куды каторую падшыць.

Капярацію цяпер усё прыстанішча баркаўчаньняў і ў будны дзень і ў сьвята. Там капяраціўшчык Сьцёпка нізенькі, круглы і ў твары і ў целе чалавек—варушкі надта. Хоць ня надта ён сам гаманіць любіць, але змыслы. Ніколі не прапусьціць такога здарэньня, дзе-б ільга было навіну якую пачуць. Хай толькі хто пачне ў капяраціве сакрэты якія саварыць, дык і бровы падыме і вушы натапырыць—хаця-б даслухаць. Людзям тавар кіне падаваць на выбар, а што гаворыцца—пачуе. Толькі датуль, пакуль пра што гаворыцца даслухае, у яго перапынак бывае, а так Сьцёпка спрыцен да гандлю. Самы ўпраўны гандляр барвьдзей за яго грошай ня злічыць і рэшты ня дасьць спрытней—роўна капейка ў капейку; калі грош трэба, дык і той знойдзецца. Лепшага за яго капяраціўшчыка і з-за меж ня выпішаш, а ні то што з гораду выпатрабуеш.

Адно толькі крыху кепска, што казённыя грошы, як капярацію замыкае, сабе ў кішэню забірае. Бывае, што забудзіцца іх усе старшаму свайму капяраціўшчыку здаць ды ўзяць замест іх расьпіску, а возьме дома да часу пакіне. Тут равізія наскочыць. Давай у ўсякіх паперах капацца, давай лічыць, на рахаўніцы бразгаць костачкамі.

— У вас, Сьцёпка,—кажуць,—нідастача рублёў на 80.

Тады Сьцёпка аж за галаву схопіцца,

успомніўшы. Ён ня тоіцца. Усё як ёсьць ад шчырага сэрца прызнаецца:

— Гэта-ж я дома грошы пакінуў ды забыўся з сабою ўзяць. Дык колькі, вы кажаце, нехапае? 80 рублёў?

— 80 і 62 капейкі.

Сьцёпка зьбегае да дому, возьме й прынясе роўна гэтыя самыя 80 рублёў і 62 капейкі.

— Вось, —кажа,—маеце. Тут яны ўсе.

Калі-ж Сьцёпкаў бацька, бывае, грамадзкага інтарэсу ня ведаючы, возьме ды ўпатрэбіць сыньскія грошы на карову ці так на які вялікі гаспадарскі расход, тады Сьцёпка, усёроўна як яго сэрца й чуе гэту бяду, не дадому бяжыць, а к суседу, каторы нядаўна што буйнаватае прадаў. Напрамілую бог просіць:

— Пазыч рублёў 80. Пасьлязаўтра я табе іх аддам.

Няма чаго казаць! Наш Сьцёпка—капэраціўшчык чалавек як трэба. А што зьвягаюць на яго некаторыя баркаўчаньне, дык—хто сабе непрыяцеляў ня мае? Так яно спрадвеку было й будзе. Сьмеху варт: кажуць—кабеты аблічвае ды й так лішвія хаўрусныя грошы сабе заганяе. Плятуць:

— Такая зайздрасьць, што меры ня знае—кожан раз лішняе перабярэ.

Ды што там пра гэта многа гаварыць, калі ўжо недастачы што раз менш і менш у Сьцёпкі знаходзяць. Гэта першы раз было 80 рублёў, ужо за другім разам усяго 43 рублі нехапала, а за трэйцім—яшчэ меней.

Мала што людзі на добрага чалавека здумаюць. Ні за што я ні паверу, каб Сьцёпка сумыслу браў сабе хаўрусныя грошы: ішчэ ў нашай радні ня чуваць было, каб хоць з адзін круцель удаўся. Сьцёпку крыўда будзе, калі яго гэтак абазваць. Ён і сабе, і казьне, і людзям верны чалавек.

От я Лук'яна з капэраціва выганяў-бы. Чорт-жа яму адкажацца, калі прысьпеліцца прасіць тытуну. Палічы тады, колькі пачкаў на аднаго яго ў месяц разойдзецца. Дасі Лук'яну, дык жа-ж тады трэба й другім пасуліць. От чаму я й думаю, што Сьцёпка сваіх у месяц сама менш рубля паўтара за адзін тытун прыкладае.

Хараство ў Баркаўцох, калі кірмашны дзень у мястэчку. Тады за людзкімі хурманкамі цераз вуліцу ў нас не пяройдзеш. Едуць і едуць. Канца ім няма. Ад цямна і праха ні да паўдня з усякім пасудкам: з цабрамі, вёдрамі, ражкамі, дайніцамі, з мяхамі на вазох усе ў Хлюпск сунуцца. Пад вечар гэтыя самыя людзі ўлегцы з Хлюпску дамоў трухаюцца. З раніцы людзі цішэйшыя, а пад вечар ужо й гамоняць і рукамі, што трэба, паказваюць. Каторы каня вьмяняў ці прадаў што з большай жывёлы, дык і саўсім трапяткім робіцца. Раніцаю едуць без ніякай гарнізацыі, як хто ўправіўся з дому выбрацца—хто раней, хто пазьней. Пад вечар-жа дамоў ехаць гуртам зьбіраюцца. Усе з адной вёскі, што ў злагадзе самы з сабою жывуць, бяруць адну літру, каб пагрэцца.

Тады дамоў усім гуртам хурманка за хурманкаю едуць. Дзве коні пад гару цішэй ідуць, там яны з вазоў адны з аднымі моцна гамоняць. Калі ў мястэчку ім не папалася пагрэцца—завоз быў вялікі каля казёнкі ці так была якая прычына, дык праз Баркаўцы едучы вялізная табліца над Цэнтрасьпіртавым ганкам успамяне ім, што пагрэцца такі варта. Хто-ж тады пазнае, што на кірмаш да торгу езьдзіў, калі з рота нічога ня чуваць.

Убачаць мужчыны на табліцы нумар 72. Пагавораць. Пасаймікуюцца:

— А што каб узяць з паўлітры? Як вы, мужчыны, думаеце?

— Па мне—можна.

— І па мне—бяры сабе.

Гукнуць на пярэдняга, каб каня сутрымаў, а задніе й самы пастануць. Пытаюцца:

— Што там у вас?

— А унь паслалі,— пакажуць тым, што ня былі блізка, як згаварваліся.

І задніім гэта на руку. Шчэ гукнуць на пасланца:

— Ты-ж там больш бяры—цэлую літру.

Пасланец згодзен. На хаду адказуе:

— Добра.

Стануць сабе ўсёю вёскаю сярод вуліцы і стаяць. З другіх вёсак людзі што едуць, мусяць на бок скіроваць коні ды абміваць.

Тымчасам пасланец у карчме з ганка сыходзіць і таўстую літру за горла трымае ў руцэ.

Далёкія яны людзі ды й ні запасьлівыя. Ня маюць з сабою такога пасудку, каб роўна бяз крыўды ўсяму гурту літру разьмераць. Але суседзкая справа. Злаваць ніхто ня будзе, калі аднаму капля болей, другому капля меней прыдзецца. Нагвом глыне, колькі яму хочацца, ды дае другому:

— Грэйся,—кажа.

Лук'ян-жа наш, што капэраціўскім сабакам прадражнілі, у такі час бывае стаіць ля ганку процi крамкі № 72. Пакурвае сабе чужы тытун ды сьмяецца разам з другімі мужчынамі. Убачыць, што так людзі з літраю мучацца, добрага прыступу да яе ня маючы—шкода іх Лук'яну стане. Падыйдзе паканеньку к людзкому возу, каля каторага гурт сабраўшыся, ды й спагадае:

— Як вы людзі п'яцё нагвом. Гэта-ж запырхацца можна. Наце вам лепш чарку.

І праўда! Дастае сабе з кішэні масенькую крыху пагібаную бляшанку, што 'шчэ з японскай вайны прынёс, як пусьцілі з войска дамоў. Лук'ян цяпер гаворыць маладзейшым хлопцам (ня ведаю: ці праўда, ці лжэ), што тады ў войску ня толькі чарку, але й гарэлку давалі, каб ахватней на штыхі пэрліся. Дык ад тых дат гэта бляшанка ў вялікай пашаноце ў Лук'яна.

Дае сваю чарку мужчынам — тыя й рады. Пабуль дзякаваць, дык перш разы два налiюць яе поўну і дадуць Лук'яну пакаштаваць. Той ад гэтага ні адказаў ласку ахвотна прымае. Толькі пасьля, як вытра губы, сапжэ як у яго чарка ў кішані апынілася. Доўга будзе ўсю гэту яго мову запісаць ды й ніхто веры ня дасьць яе пісаную прачытаўшы. Каб паверыць, трэба самому ад Лук'яна чуць. Ён так не аднаму гурту ласку ўчыніць і адзэю гладка сказанаю моваю адбрэтаецца.

Лук'ян чалавек запасьлівы. У яго заўсёды скібачка хлеба ў хустачку ўверчаная ў кішэні ляжыць. Пасьля чаркі выме яе. Разьверціць. Адломіць колькі трэба закусіць, а рэшту зноў уверціць і ў кішаню схавае. Бляшанка гэтак сама ў яго ў пашаноце. Як людзям ня трэба, возьме зьверху аб крысо сваей суконнай жакеткі вытра і ў кішэню схавае. Тады памаленьку ізноў ідзе ў мужчынскі гурт зубы продаць.

Хто Лук'яна ня знае, пры чужых вызох убачыўшы, гатоў падумаць што падліза ён. Але хай лепш гэтага ня думае. Дзе Лук'яну выпадае, ён там і накпіць з чужога чалавека і набрэша. Калі ж дзе гэта ня з рукі, там ласачкаю віўзапамятку пад'едзе. Ці прозьбаю, ці просьбаю ўсё адно сабе ні на ўтрату зробіць, а на прыбытак. Ці так, ці сяк, але Лук'ян і ня ўгінаецца надта і ня крычыць моцна. Усё ў яго тартамі з рук сыходзіць.

Гэтак сама і ўсе баркаўчаньне любяць весялосьць. Здало іх накпіваць, сьмяцца з людзей. Хай пападзецца ў Баркаўцы чужы чалавек, дык так абшыюць, абсьмяюць, што толькі будзе рот разявіўшы слухаць ды блішчаць вачымато на аднаго, то па другога. Сьвежы чалавек чі за што баркаўчанскай мовы не разьбярэ. Каб яе разумець налажыцца, трэба сама менш месяцы два ў Баркаўцох пажыць ды пахадзіць на зборні і к старэйшым і к маладзейшым. Тады толькі акзамінт на сабачую мову здасі.

Не шануюць і самы сябе баркаўчаньне. У нас нікога па імсньні ні завуць. Кожны мае сваю прыкладку. І у старога, і ў малога яна ёсьць. Лук'яна—капэраціў-

скім сабакам завуць. Трахіма з Пагулянкі—млечнікам. Парасчынага сьвёкра — «дэбаю» звалі. Ды што казаць як каго завуць, калі вы болей нікога і ня ведаеце ў нас. Але пачакайце! Абы толькі вам быў час, а мне ахвота, дык 'шчэ ці аднаго можна будзе баркаўчаніна ў газэтах працягнуць. Абы здароўе!

Патом весела ў Баркаўпох жыць. Дарма што і ў мяне самога прыкладка ёсьць, а я патом іх ні на адну вёску, ні на адзін горад ні праманяў-бы.

От у вакол ных вёсках каля нас дык дзівуны, а ня людзі ёсьць. Баяцца ў Баркаўцы ў капэраціў хадзіць, каб хаця іх ні прасьмяялі. Толькі, праўда, ня ўсе.

'Шчэ ня ведаю чаму гэта нашы Баркаўцы ў другіх вёсках за нейкае пудзіла маюць. Пасварацца там бывае суседзі, а не-то і паб'юцца, калі натта гарачыя. Потым давай адзін аднаго страшыць:

— Хіба-ж ты праз Баркаўцы ісьці ці ехаць ня будзеш! Памесяць там табе плечы. Ой улежаць! Аж не панясеш, як уложаць.

— Смаркач ты, калі ня чуў добрага слова. Хіба-ж ты там знаеш каго? От я калі папрашу, дык табе то ўложаць: мала ня будзе.

— Хто цябе паслухае?

— Ато й —не?!

— Ато й— паслухае?!

Так: перш біліся, а потым сядуць водалека адзін ад аднаго, калі ёсьць на чым, ды давай сварыцца. Божны выхваляецца, што лепш за другога баркаўчаньняў ведае.

Саўсім-жа гэта — брахня на нашу вёску. Ніколі баркаўчаньне ў такія справы ня лезьлі, каб спасьцігаць невядома каму і чорт ведама за каго. На гэта даўней у мястэчку былі два мяшчанчукі, што за паўкварты гатовы былі да паўсьмерці прыбіць саўсім не вінаватага ім чалавека. Баркаўчаньнем толькі каб падвесьці каго, каб хто біўся, а ім самым збоку пастаяць ды на той бой пагледзець. От на што баркаўчаньне здатны.

А каб на мяне хто так сказаў, як на нашы Баркаўцы—я-б адразачку заяву ў суд занёс-бы.

Але хто што не гаворыць, а я адно кажу: за нашы Баркаўцы ў сьвеце лепшай вёскі няма. Ні за што-б я з яе ні выбраўся, хоць бы мне й прыплачывалі.



Надвоз будаўнічага матэр'ялу на Асінбудзе

# Збор законаў Саюзу ССР беларускаю моваю

Пачынаючы ад 1923 году, усе законы ўраду Саюзу ССР друкуюцца ў Маскве на шасьці мовах адначасна: на расійскай, украінскай, беларускай, груаінскай, армянскай і цюрска-татарскай. Зроблена гэта для таго, каб як мага больш наблізіць згаданыя законы да насельніцтва саюзных рэспублік. Пра гэта напісана і ў 34 артыкуле Асноўнага закону (Канстытуцыі) Саюзу ССР.

Але на працягу ўсіх гэтых гадоў надрукаваныя ў беларускай мове законы пасылаліся на Беларусь толькі ўстановам ня ніжэй раённага маштабу. Разумелася пры гэтым, што прыватныя асобы і іншыя ўстановы змогуць выпісаць адпаведны тэкст за свой кошт.

Для таго, каб даць магчымасьць карыстацца тэкстам «Збору Законаў Саюзу ССР» яшчэ большаму ліку насельніцтва, Беларускі ўрад, паводле прапазыцыі свайго сталага прадстаўніка ў Маскве тав. А. І. Паўлюкевіча, пачынаючы ад 1-га студзеня 1929 году будзе пасылаць за свой кошт гэты «Збор Законаў Саюзу ССР» усім беларускім сельскім саветам.

Гэтая важная справа, дапасаваная да дню дзесяцігодзьдзя існаваньня Белар. ССР, павінна зацікавіць ня толькі непасрэдных працаўнікоў сельскіх саветаў, але і ўсіх актывістых вёскі. Сапраўды, ужо адзін толькі факт друкаваньня законаў саюзнага цэнтральнага ўраду на беларускай мове заслугоўвае вялікай увагі. Апроч таго, працаўнікі вёскі здолеюць прыняць удзел у абмеркаваньні ўсіх важнейшых пытаньняў дзяржаўнага і гаспадарчага будаўніцтва Саюзу ССР.

Зразумела, што атрымоўваючы «Збор Законаў Саюзу ССР» нашы сельскія саветы павінны памятаць, што гэты збор мае вялікую каштоўнасьць ня толькі матар'яльную, але і практычную і юрыдычную: той ці іншы закон можа быць не патрэбен сяньньня, а спатрэбіцца заўтра. Дзеля гэтага, нумароў ня трэба раскідаць, ня трэба блоціць, а трэба трымаць акуратна. Лепш за ўсё, калі пасьля, у канцы году, іх аддаць у апраўу (у пераплёт), або сшыць у кніжку.

Мала і таго, У 1925 годзе Саюзны Савет Народных Камісараў разам з ЦВК Саюзу ССР выдаў быў адмысловую пастанову пра тое, як законы Саюзу ССР набываюць моц на мясцох. Было там сказана, каб гэтыя пастановы запісваліся, каб адзначалася, калі яны атрыманы. Справа ў тым, што некаторыя пастановы набываюць моц з таго дню, калі яны атрыманы (такая пастанова надрукавана ў Зборы Законаў Саюзу ССР за 1925 г. у № 8 пад артыкулам 75).

Паколькі гэтыя законы друкуюцца ў Маскве, далёка ад крыніцы—народнае мовы, у іх могуць быць якія ня зусім зграбныя звароты ці паасобныя словы. А некаторыя словы могуць быць зусім незразумелыя (узяты з іншакраёвай мовы). Калі каму з чытачоў такія словы ці звароты пападуцца, ён можа напісаць пра гэта ў Маскву, у Крэмль, у рэдакцыю «Збору Законаў Саюзу ССР» і гэтым дапаможа зрабіць мову больш зграбнай і зразумелай. 1)

**Уладзімер Дубоўка.**

---

1) Адказны рэдактар «Збору Законаў Саюзу ССР» на беларускай мове, Уладзімер Дубоўка; Адрас: Москва, Кремль, Отдел Опубликования Законов СНК Союза ССР.



# КІНО—ВЁСЦЫ

## Палепшыць кіно-фільмы

За час працы кіно-перасовак пры раёнах вельмі шмат сялян здолелі пабачыць некалькі кіно-фільм. Але патрэбна сказаць, што кіно-фільмы, якія паказваюць у вёсцы, у абсолютнай большасьці бываюць непрыстасаванымі да гледача-селяніна.

З галоўных недахопаў патрэбна адзначыць: 1) цяжкі зьмест кіно-фільм, які часта бывае незразумелы нават перадавому сялянству; 2) карціны бываюць доўгімі, што цяжка вытрымаць селяніну 2-3 гадзінны сэанс; 3) неабдуманы, а часамі і зусім нядбайны падыход кіно-мэханіка да папярэдняй гутаркі аб сутнасьці і ходзе кіно-фільмы.

Вось гэтыя галоўныя прычыны складаюць няправільны погляд у сялянства на кіно, як на нешта «забаўнае», а не як на вялікі сродак правядзеньня культуры.

Белдзяржкіно патрэбна больш сур'ёзна падыходзіць да выпуску кіно-фільм для вёскі. Пры адборы кіно-фільм трэба галоўную ўвагу зьвяртаць на лёгка-зразумеласьць галоўнай думкі і выразнасьць у ходзе карціны.

Цяпер праводзіцца кампанія культурнай рэволюцыі, і на кіно, як на магутны сродак комуністычнага выхаваньня і агітацыі, ускладаецца вялікі абавязак.

Наша кіно справіцца з гэтым абавязкам толькі тады, калі яно больш увагі будзе зьвяртаць на гледача.

**Міс.**

**В. Ліцьвінава, Полацкай акругі.**

## Пра кіно-перасоўкі

З месяцу лютага гэтага году Віцебскі Саюз Спажывецкіх Таварыстваў пачаў працу на культурным абслугоўваньні шырокіх сялянскіх мас пры дапамозе кіно. Па акругах Віцебскай і Полацкай працуюць 11 кіно-перасовак і ў далейшым намячаецца ў працягу 1928-29 г. да 20 перасовак. Гэтае дасьць магчымасьць больш абслужыць глухія куткі нашай вёскі. Працу з кіно Спажывецкі Саюз праводзіць праз таварыствы, якія абвяшчаюць насельніцтва пра дзень пастаноўкі. Адначасова з сэансам праводзіцца гутарка альбо даклад па розныя тэмы, якія робяцца мэханікамі альбо дакладчыкам, выдзеленым таварыствам.

За верасень месяц 8-ю перасоўкамі пастаўлена 218 сэансаў, на якіх прысутнічала 26.852 чал. Абслужана 201 пункт, праведзена 36 дакладаў.

Сяляне вельмі цікавяцца кіно.

Дрэнна праца з кіно-стужкамі. Белдзяржкіно нерэгулярна задавальняе імі. Здараюцца выпадкі, калі пастаноўкі зрываюцца з прычыны адсутнічаньня малюнкаў, альбо яны не падыходзяць да вёскі па сваім зьмесьце. Селянін ніяк не зразумее іншага малюнку, дужа складанага і які нічога не дае вёсцы.

**ДТР.**

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**С. Вясковаму** — Апавяданьне «Ссыпшчына» напісана літаратурна пісьменна. Вельмі ўдала разьвіваецца сюжэт, трапна пададзены гутаркі сялян, няма нічога лішняга, непатрэбнага дзеля самага твору. Толькі расчароўвае разьвязка апавяданьня. Няўжо вясковая грамада гэтакая спрэс дзікая, што сяляне ссыпалі пастуху збожжа і пасьля ўсяго вёскаю пачалі адбіраць назад, зьдзекуючыся з пастуха? Гэта маглі зрабіць 2-3 хуліганы, а ня ўся вёска, як адзін чалавек. Літаратурны твор трэба, каб меў мастацкую праўду.

**В. Бурносаву.**—Калі ў вас ёсьць больш вершы, дык прышлеце. Цяжка ўявіць вашы літаратурныя здольнасьці з гэтых двух вершаў.

**Аляксандраву Сьцяпану.**—Практыка паказала, што вам мусіць трэба пакінуць пісаць вершы.

Адказны рэдактар
ШУКЕВІЧ-ТРАЦЬЦЯКОЎ

# ЦІ ПАДПІСАЎСЯ ТЫ

на самую пашыраную цэнтральную сялянскую газэту

# „Беларуская Вёска“

выходзіць тры разы ў тыдзень

**„БЕЛАРУСКАЯ ВЕСКА“**

каштуе на год 1 р. 80 к.
„ на паўгода—90 к.
„ на тры мес.—45 к.

Гадавыя і паўгадавыя падпісчыкі газэты „Беларуская Вёска“ ўдзельнічаюць у 2-й лётарэі-розыгрышы

**РАЗЫГРЫВАЕЦЦА:** 3 швэйныя машыны, 3 сэпаратары, 5 сячкарняў, 3 драпакі, 3 радыё-прыёмнікі, 50 плугоў, 100 косаў, 100 сярпоў, 5 гадзіньнікаў, тавару на 10 пар ботаў, сукна на 10 касьцюмаў, 10 жаночых хустак, 10 падоўжных піл і шмат іншых дарагіх рэчаў.

## Лётарэя-розыгрыш адбудзецца ў г. Менску 24 лютага 1929 г.

Гадавыя падпісчыкі атрымаюць тры лётарэйныя білеты, а паўгадавыя—адзін білет.

**Лётарэйныя білеты рассылаюцца**

Падпісацца на „Беларускую Вёску“ можна: на пошце, у пісьманосцаў, селькораў і ўсіх упоўнаважаных канторы „Беларускай Вёскі“


Друкарня газ. «Зьвязда», Менск, Савецкая, 63. Галоўліт № 304